 



### ЯК ШАПТУХА ПАМАГАЛА

Па працяглай па пагодзе
Стала хмурна на заходзе.
Закіпела звозка збожжа,
Каб не змокла, укрый Божа.
А ў Ягора жонкі, Удоты,
Сама забалеў жывот.
У Ягора велька гора:
З кім жа збожжа звозіць з поля?
Ляжыць Удота у садку,
Крэкча, стогне ў халадку:
— Ой, лячы мяне, Ягор,
Едзь да бабкі ў Новы Двор.
Ягор корку хлеба ўзяў,
У Новы Двор каня пагнаў.
О, Ягор быў не тупы —
Звярнуў у поле, па снапы
Сам ён фуру ладаваў,
Прывёз, у пуні сам складаў.
Да садка пад'ехаў шпарка.
— Тпррр! — на цэла горла гаркнуў.
Абудзілася Удота,
Заскуліла: — Ой, жывот!
Ягор хлебец ёй падаў
(той што у бабкі й не бываў).
Хвора ужыла замовы,
Як не бач, стала здарова,
Як рукою, боль зняло.
Устала — лёгка, весела
І яна дасюль не знае,
Як шаптуха памагае.

**МІХАСЬ КРАСОЎСКІ**
Малынка




### ДАГАВАРЫЛІСЯ

У царкву прыншлі тры мужчыны: губаты, глухі і нармальны. Разам пачалі маліцца. Глухі маліўся па ціху, губаты па ціху не ўмеў, дык пачаў свістаць. Глухі ўбачыў, што губаты свішча і ўдарыў таго па губах. Нармальны пытае глухога:

— Навошта ты яго б'еш, ён жа губаты!

Глухі адказвае:

— Калі ён багаты, то можа свістаць?

**Раіса Койлюк.**
Сакі

### У СУДЗЕ

Суддзя да абвінавачанага:

— Ну, што ж, не пашанцавала, карова, якую вы ўкралі, вярнулася да свайго гаспадара. Навошта вы яе кралі?

Абвінавачаны:

— Як жа, высокі суддзя, каб яе я не ўкраў, украў бы хто іншы.

Суддзя:

— За гэтую кароўку атрымаеце 1 год і 4 месяцы арышту.

Абвінавачаны:

— Высокі суддзя, хто ж тады праз гэты час будзе людзям каровы ўначы з хлявоў выводзіць?

**М. Ляшэўскі**
Войшкі

### ХАДЗІЎ ДАВЕДАЦЦА

— Вы спазніліся на цэлых 15 хвілін, — гаворыць прафесар да студэнта.

— Я хадзіў у дэканат даведацца, ці будзе ваша лекцыя, — адказаў студэнт.

**Анатоль Супрунюк**
Плюцічы

### ВАЙНА З АЛКАГОЛЕМ

— Гарэлка, гэта наш вораг, дарагія браточкі, давайце нішчыць яе, хоць па чацвяртушцы, — кажа п'яны сваім сябрам.

**Міхась Раманюк**
Прыбудкі

### СТРАЖНІК

Чыгуначны стражнік затрымаў на чыгунцы хлопца і кажа яму:

— Што ты ходзіш так па чыгунцы, хіба яшчэ пад паравоз ніколі не трапіў?

**Анатоль Тарасевіч**
Случанка




# ПАЗІТРОННАЯ ЖОНКА

Механічныя работы — не новае ў нас, але пазітронная жонка — навіна вялікая.

У нежанатага хата не прыбрана, бялізна не мытая, абед не варыцца, сёння гуляеш і заўтра гуляеш, а сарочкі не маеш. Справа гнілая нікому не мілая, таму чалавек жэніцца. І, бывае, у хаце з'яўляецца парадак, а ў галаве жанатага толк прападае.

Жонка круціць галавою мужа: там не сядай, тут не стой, не куры, не плюй на падлогу, не лягай у ботах, не прыходзь «пад мухай», на чужых жонак не глядзі — адным словам, тэрор у хаце і толькі. Яўнае абмежаванне індывідуальнасці, пазбаўленне свабоды, слова і самадзейнасці. У такім выпадку чалавек за галаву бярэцца: парадак у хаце ёсць, але ў самога рукі і ногі звязаны. Калі неасцярожны муж паспрабуе сказаць штонебудзь насупраць, жонка на поўны рэгулятар «гучнагаварыцель» адчыняе. На другі дзень бедны муж, апусціўшы вочы, з суседзямі сустракаецца.

Зусім што іншае пазітронная жонка, якая дзейнічае пры дапамозе акумулятара. Муж настаўляе гучнагаварыцель так, як хоча. Адпаведную кнопку націсне і жонка мые бялізну. Паставіш рэгулятары, як на арыфмометры, на «боршч», «печаную курку», «кампот» — і жонка, як і лічыльная машына, рыхтуе заказаны абед.

Хочаш да кумы ў госці схадзіць, уключаеш жонцы «сон», і яна паслухмяна заплюшчыць вочы. Можна на цэлы тыдзень паехаць з хаты і за жонку не баяцца, бо кожная такая жонка спецыяльны ключ мае. Ключык павернеш, вымеш і ніхто другі, хоць бы спух, нічога не скарыстае.

А самае асноўнае, такой жонкі ні карміць, ні адзяваць не трэба. Раз чалавек выкіне грошы — купляючы жонку ў растэрміноўку, а пасля чыстая эканомія атрымоўваецца. Са свядомым мацярынствам таксама бяды няма. Паставіш рэгулятар на напіс «без дзяцей» і святая справа.

Паводле старога спосабу ў многіх замест жаданых сыноў, дочкі родзяцца і наадварот. У пазітроннай жонкі хлопчыкі з правага боку, а дзяўчынкі з левага. Даволі лічбу паставіць і ўсё ў парадку.

Калі чалавек любіць вострыя выбухі пачуццяў, настаўляе рэгулятар на «рэўнасць», а сам садзіцца на лаўку. Жонка па хаце блытаецца, провады ў яе шыпяць, гучнагаварыцель гучыш, ззаду іскры сыплюцца — адным словам, гукавых і аптычных эфектаў больш, чым у жывой жонкі. Пасля такой сцэны пазітронная жонка за сэрца не трымаецца, да суседзяў на скаргу не бяжыць і помсты не выдумляе. Ад такой жонкі і войкання не пачуеш у хаце: зубы ў яе не баляць, паясніцу не ломіць, «раматус» не мучыць і з доктарам не трэба знаёміцца.

Адно толькі дрэнна, людзі дарагія, пакуль што не вядома, дзе такую жонку дастаць можна.

*Дзядзька Лявон*



Цягнік выйшаў з тунеля. Паляванне на вінаўніка.

Галоўнай крыніцай дахода княства Манака з'яўляецца ігральны дом у Монтэ-Карло.



— Прабачце, панове, я больш не граю.




## ГУМАРЭСКІ

### ГОДЗЕ

На кватэры ў адной жанчыны пасяліўся салдат. Салдат меў быць у вёсцы цэлы дзень, і жанчына, адыходзячы ў поле, падрыхтавала яму абед і кажа:

— На абед у печы стаіць боршч і каша, ну і годзе (што азначала: больш няма нічога), — і пайшла ў поле. Салдат дастаў з печы боршч, з'еў яго, потым з'еў кашу і пачаў шукаць гэтага «годзе». Знайшоў печаную гусь і з'еў яе. Вечарам вяртаецца жанчына і пытае:

— Ну, як салдат, еў абед?

— А дзякую, дзякую, наеўся ўдоваль. Добры быў боршч і каша, а ўжо найлепшае было гэтае «годзе».

Заглядае жанчына ў печ, а гусі няма.

**М. К.**

### ПАНУ НАВУКА

Было гэта за цара. У адной вёсцы жыў бедны Янка, які дагадзіўся з царом за кусок хлеба выбіць усіх мух. Цар даў яму дазвол, на якім было напісана, што Янка можа біць мухі, дзе хоча.

Калі ў царскім палацы Янка выбіў усіх мух, ён пайшоў у карчму. Там не было мух, толькі сядзелі лысыя паны. Раптам Янка ўбачыў адну муху. Узяў у рукі палена і ходзіць за ёю. Калі муха села на лысіне пана з яго вёскі, Янка ўрэзаў паленам па панскай лысіне. Пан зваліўся. Янку схапілі і прывялі да цара.

— Гэты мужык забіў пана, — кажуць.

— Я не пана біў, толькі муху, якая акурат сядзела на яго галаве, — адказаў Янка і выцягнуў з-за пазухі царскі дазвол. І яго адпусцілі.

**Павал Казберук**
Боўтрыкі

 